# НАШЫ ГОСЦІ — НАШЫ ГОСЦІ

**Спрадвеку Беларусь была краінай, дзе найчасцей за ўсё скрыжоўваліся дарогі вайны... Зямлю яе тапталі напалеонаўскія орды, па іх двойчы на памяці пакалення грукалі каваныя боты нямецкіх заваёўнікаў. Наш народ сустракаў няпрошаных прышэльцаў тым, што яны заслугоўвалі — гневам і помстай. Але наш народ і выключна гасцінны тады, калі на яго зямлі скрыжоўваюцца не ваенныя дарогі, а шляхі дружбы, прыязні. За апошнія гады наш родны Мінск усё часцей і часцей наведваюць жаданыя і заўсёды чаканыя госці — дзеячы культуры і мастацтва. Вось і зараз на сцэне нашага опернага тэатра выступае саліст амерыканскай «Метрапалітэн-опера» Джэром Хайнс у партыі Мефістофеля, а ў зале Дома афіцэраў з найвялікшым поспехам дае канцэрты амерыканскі хор і аркестр пад кіраўніцтвам Роберта Шоу. На цыркавым манежы выступаюць нашы блізкія суседзі і сябры з Польскай Народнай Рэспублікі.**

**Ад шчырага сэрца гаворым мы, беларусы: «Дзякуй вам, дарагія госці за тую асалоду, якую прыносіць нам ваша мастацтва! Калі ласка, як найчасцей наведвайцеся да нас!»**

## НА МАНЕЖЫ ЦЫРКА

Аднойчы, нешта каля года назад, у цягніку Масква—Берлін я пазнаёміўся з групаю рабочых. Гэта былі сябры з Польскай Народнай Рэспублікі. Яны вярталіся дадому з Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі нашай краіны.

Даведаўшыся, што я з Беларусі, адзін з іх, Станіслаў, весела сказаў:

— О, сусед, значыць! — і шырокім жэстам паказаў на сваё купэ. — Прошэм друга до нас!

Разгаварыліся.

— Як там жыве ваш Мінск?— спытаў Станіслаў. — Чулі мы: квітнее. І кажуць, прыгожы, як наша Варшава.

Я ўспомніў, што ў партфелі ў мяне ёсць экземпляр каляровага буклета «Мінск у ілюстрацыях». Разглядаючы яго, сябры самі называлі выдатныя мясціны беларускай сталіцы: «Вароты горада», «Дом урада», «Ленінскі праспект»... Якая прыгажосць!

Потым увагу іх прыцягнуў будынак з магутнай каланадай, увенчаны вялізным купалам.

— Цырк! — усклікнуў Станіслаў і спытаў: — А гэта праўда, што будынак вашага цырка лепшы ў Еўропе?

— Не ведаю, — адказаў я, — магчыма.

У сваю чаргу польскія сябры падарылі мне кнігу «Варшава». Адну з першых старонак яе ўпрыгожваў герб. На ім — Сірэна з узнятым мечам у правай руцэ і са шчытом, што прыкрывае сэрца, — у левай.

— Гэты меч, — сказаў, усміхаючыся, Станіслаў, — нікому не пагражае, а сэрца Сірэны, як і нашы сэрцы, заўсёды адкрытыя для добрых сяброў.

І вось яшчэ адна сустрэча з Сірэнаю... На гэты раз яна разам з эмблемай Мінскага дзяржаўнага цырка ўпрыгожвае праграму польскага цырка «Варшава». Калі бярэш у рукі лісток з назвамі нумароў і імёнамі выканаўцаў, калі глядзіш на знакі-сімвалы, што як бы змацоўваюць дружбу народаў-суседзяў, у душы нараджаецца тое добрае пачуццё, без якога, бадай, нельга атрымаць сапраўднага задавальнення ад якога б там ні было, хоць і самага цудоўнага паказу. Гэтае пачуццё спадарожнічае не толькі эстэтычнаму задавальненню, але і памагае разбірацца ў складанасцях і тонкасцях любога жанра мастацтва.

Цырк — мастацтва жыццярадаснае, яно «стракатае», як веснавы луг. Але цыркавыя праграмы бываюць розныя. Паглядзіш іншую і, на жаль, адзначаеш: аднастайна. А значыць, і бедна. Цырку ж праціпаказана і тое і другое.

Скажам адразу; праграма нашых сяброў вызначаецца якасцю, уласцівай сапраўднаму цырку, — жыццярадаснасцю, разнастайнасцю і высокім майстэрствам. «Букет» яе нумароў вялікі: тут ролікабежцы і акрабаты, гімнасты і веласіпедысты, жанглёры і жакеі, дрэсіраваныя ільвы, коні і нават... папугаі. Але гэтае мноства нумароў зусім не стамляе. Наадварот.

Аднак паспрабуем расказаць пра ўсё па парадку.

Пачынаецца пралог. Затым выступаюць ролікабежцы Зіна Грышкевіч і Хуберт Лянгжык. Працуюць яны на невялікім круглым п'едэстале. На першы погляд здаецца, што памеры яго павінны абмежаваць артыстаў у фігурнай яздзе. Але не! Нумар іх не толькі багаты найскладанейшымі практыкаваннямі фігурнага катання. Яны спалучаюць яго з танцам і элементамі партэрнай акрабатыкі. А тое, што Грышкевіч і Лянгжык працуюць на п'едэстале, толькі падкрэслівае іх выдатнае выканаўчае майстэрства.

Ролікабежцаў змяняе нумар «Жывыя статуі» ў выкананні Маеўскага, Лавіцкага і Акавінскага. Тут артысты дэманструюць не столькі акрабатычнае мастацтва, само па сабе прывабнае, колькі сваю фізічную дасканаласць. Гледзячы на маладых, дужых, спрытных людзей, міжволі прыгадваеш словы Льва Талстога, сказаныя ім Сулержыцкаму аб двух кірасірах, што крочылі ў нагу па панелі: «Да чаго прыгожыя! Рымляне старажытныя... Сілішча, прыгажосць,—ах, божа мой. Як гэта хораша, калі чалавек прыгожы, як хораша!»

Праграма нашых сяброў вызначаецца яшчэ і тым, што кожны яе нумар, няхай нават пабудаваны на даўно вядомых практыкаваннях ці труках, мае нешта «сваё», мае, калі можна так сказаць, «сваю» жывую душу. Возьмем, напрыклад, гімнастаў на турніках Барлей. Жывой душою гэтага нумара з'яўляецца эксцэнтрык. Не, я не хачу зменшыць вартасцей яго двух партнёраў. Яны працуюць на рэдкасць самааддана: інакш нельга — трукі вельмі складаныя і патрабуюць напружання ўсіх сіл выканаўцаў. Але эксцэнтрык проста непараўнальны! Ён усё «прабуе», і ўсё ў яго выходзіць так лёгка, спрытна і прыгожа, нібы яму памагае стан бязважкасці. Не працуе, а гуляе. Вам даводзілася калі-небудзь бачыць, каб чалавек, дакрануўшыся нагамі стойкі турніка, ляжаў на паветры? Не? А гэты ляжыць. Ляжыць і сам здзіўляецца, што такое магчыма. Гледачы, вядома, ведаюць, што за лёгкасцю, з якой выступае артыст, тоіцца вялікая праца, і ўзнагароджваюць яго дружнымі апладысментамі.

Таму, хто разумее старажытнае і тонкае мастацтва жангляжу, не могуць не спадабацца жанглёры Гарыс. І няхай іх нумар не блішчыць навізною, няхай усё тое, што яны робяць, ужо нам знаёма, справядлівасць патрабуе аддаць ім належнае: артысты працуюць у выдатным тэмпе. А гэта, між іншым, у жанглёраў магчыма толькі тады, калі яны па-майстэрску валодаюць сваім жанрам.

Цяжка ўявіць сабе праграму польскіх сяброў без пластычнага эцюда, які выконваюць артысты Аліцыя і Ева. Гэты нумар упрыгожвае яе найлепшым чынам.

Клоўны В. Кахманскі. А. Ураноўскі.

Як і ў нумары «Жывыя статуі», мы бачым шчаслівае спалучэнне віртуознага майстэрства і грацыёзнай маладосці. Аднак пластычны эцюд нічым іншым, апроч гэтага, не напамінае «Жывых статуй». Ён падкрэслена самастойны і таму глядзіцца з той жывой цікавасцю, якая можа быць выклікана толькі прыемнай нечаканасцю. А Ева і Аліцыя сапраўды выклікаюць гэтую цікавасць: яны вельмі пластычныя, грацыёзныя і разам з тым надзвычай упартыя, але ўпартасць іх не кідаецца ў вочы, а хутчэй згадваецца ў лёгкасці выканання яўна складанейшых практыкаванняў.

Упэўнена працуе Крысціна Тарлікоўская з дрэсіраванымі ільвамі: цары звяроў трымаюць сябе ў адносінах да яе зусім «па-джэнтльменску», яны ахвотна выконваюць яе волю і гэта гаворыць аб тым, што артыстка з'яўляецца выдатнай дрэсіроўшчыцай. Выдатна працуюць у Д. Нел-Енджаеўскай дрэсіраваныя арабскія коні. Артыстка Станкевіч паказвае «вучоных» галубоў і папугаяў. Выкарыстоўваючы прыродныя здольнасці птушак, яна дамагаецца здзіўляючых вынікаў. Асабліва шматзначны фінал нумара, калі артыстка разгортвае два дзяржаўныя сцягі — савецкі і польскі, а галубы дружна злятаюцца на іх дрэўкі.

Пластычны эцюд у выкананні сясцёр Аліцы і Евы.

Малюнкі Л. ЧУРКО.

У праграме мноства нумароў. У кароткім артыкуле цяжка і, бадай, немагчыма расказаць пра ўсё. Трэба думаць, нашы сябры не будуць у крыўдзе за тое, што тут не названы некаторыя нумары і імёны іх выканаўцаў, якія таксама заслугоўваюць добрага слова.

У перапынках паміж нумарамі ўвагу гледачоў займаюць клоуны А. Ураноўскі, Б. Дваракоўскі і В. Кахманскі. Кожны з іх па-свойму арыгінальны. Усе разам — здольнае трыо, якое можа і здзівіць і пасмяшыць. Асабліва таленавіты А. Ураноўскі. Ён усё—і акрабат, і танцор, і музыкант, і спявак. І толькі адно пажаданне — не трэба ў добрую работу дапускаць плоскіх жартаў, накшталт таго, калі адзін мяце бар'ер, а другі за ім пасыпае яго пілавіннем. Гэта ад бяздумнай гарэзлівасці, а не ад мастацтва.

Гаворачы аб праграме, я некалькі разоў паўтарыў слова маладосць. І нездарма. Цырк «Варшава» — цырк маладых. І гэта добра. Значыць, ён расце, развіваецца і ў недалёкім будучым, мы ў гэтым упэўнены, будзе дэманстраваць сваё выдатнае мастацтва з яшчэ большым поспехам і бляскам.

Калі пісалася гэтая рэцэнзія, перада мною ляжаў дарагі падарунак — кніга аб Варшаве, аб цудоўнай сталіцы Польскай Народнай Рэспублікі. Я глядзеў на Сірэну і прыгадваў словы Станіслава. Ён меў рацыю, мой сябра: сэрцы яго суайчыннікаў адкрыты для нас, савецкіх людзей. І яшчэ я думаў: добра, калі да нас прыязджаюць верныя сябры; добра, калі ўсхваляванае мастацтва іх родніць нашы душы і ўмацоўвае вузы той дружбы, якая жыватворчым сонцам зззяе над нашымі народамі.

**Васіль ДАНІЛЕВІЧ.**

## НА ОПЕРНАЙ СЦЭНЕ

У Маскве, Ленінградзе, Рызе з поспехам прайшлі выступленні саліста нью-йоркскага тэатра «Метрапалітэн-опера» Джэрама Хайнса — аднаго з папулярных спевакоў Амерыкі. У яго разнастайным рэпертуары — складаныя оперныя партыі Базіліо («Севільскі цырульнік»), Мефістофеля («Фауст»), Барыса («Барыс Гадуноў») і іншыя, якія выконваюцца ім на той мове, на якой напісаны твор.

Зусім зразумелай з'явілася цікавасць, праяўленая мінчанамі да чарговага спектакля «Фауст», у якім нью-йоркскі саліст выконваў на сцэне нашага тэатра партыю Мэфістофеля.

У Джэрама Хайнса вельмі прыгожы і моцны голас. Выканаўчай манеры артыста ўласцівы ўзвышанасць, вялікая стрыманасць і эмацыянальная глыбіня.

Сцэнічнае ўвасабленне вобраза Мефістофеля ў Джэрама Хайнса даволі своеасаблівае, не падобнае на тыя вобразы, якія нам даводзілася бачыць нават у вельмі вядомых і папулярных выканаўцаў як айчынных, так і замежных. Але ў гэтай своеасаблівасці, насычанай надзвычайным унутраным перакананнем, жыццёвасцю і праўдзівасцю сцэнічных паводзін, маляўнічай скульптурнасцю поз, крыецца непаўторная прыгажосць і абаяльнасць вобраза. Дарэчы, над гэтым вобразам амерыканскі артыст працаваў з рускім рэжысёрам. Прыгожы голас і высокая вакальная культура разам з прадуманай трактоўкай партыі Мефістофеля забяспечылі госцю з Нью-Йорка вялікі поспех у гледача.

Д. Хайнс у ролі Мефістофеля.

Разам з амерыканскім артыстам выступілі беларускія спевакі Т. Шымко (Маргарыта), Р. Асіпенка (Зібель), П. Дружына (Марта), Р. Яўраеў (Вагнер), В. Ганчарэнка (Валянцін).

У гэтым жа спектаклі «Фауст» мы пазнаёміліся яшчэ з двума новымі выканаўцамі. Так, маладога Фауста спяваў наш госць з Латвіі—саліст Рыжскага тэатра оперы і балета Ян Забэр, уладальнік яркага і мілагучнага лірыка-драматычнага тэнара. На высокім прафесіянальным узроўні выканаў упершыню партыю старога доктара Фауста малады спявак беларускай оперы І. Шчацінін.

Поспеху спектакля ў значнай меры спрыяў аркестр тэатра пад кіраўніцтвам Т. Каламійцавай.

**Г. ЮР'ЕЎ.**

## НА ЭСТРАДНАЙ ПЛЯЦОЎЦЫ

**Праходзяць гады і цэлыя стагоддзі, а выдатная спадчына, пакінутая наступным пакаленням вялікімі музычнымі творцамі, не траціць сілы мастацкага ўздзеяння на чалавека, а па-ранейшаму хвалюе, захапляе, напаўняючы радасцю сэрца. Мы, сучаснікі, пры кожнай новай сустрэчы з творчасцю такіх геніяльных майстроў далёкага мінулага, як Бах і Моцарт, здзіўляемся не толькі іх вялікай таленавітасці, але і ўменню праўдзіва, глыбока і натхнёна раскрываць шматгранны свет чалавечага жыцця.**

**І вось на мінулым тыдні мінчане зноў сустрэліся (што бывае, на жаль, вельмі рэдка) з творамі вялікага мысліцеля і мастака І. С. Баха і аднаго з найярчэйшых прадстаўнікоў так званага «венскага класіцызму» Моцарта, а таксама іншых заходніх кампазітараў, якія жылі і працавалі ўжо ў нашым стагоддзі.**

**Хто ж з'явіўся непасрэдным выканаўцам і інтэрпрэтатарам багатых і вельмі складаных канцэртных праграм? Нашы госці — хор і камерны аркестр пад кіраўніцтвам Роберта Шоу (ЗША), якія прыехалі ў Савецкі Саюз на працяглыя гастролі і пасля Масквы пачалі сваю канцэртную паездку па краіне з беларускай сталіцы.**

**У сябе на радзіме Р. Шоу вядомы як выдатны хармайстар і дырыжор, вялікі знаўца харавога мастацтва. Створаны ім калектыў дасягнуў сапраўды фенаменальных поспехаў як у самой тэхніцы спеваў, даведзенай да выключнай дасканаласці, так і ў манеры выканання складаных манументальных палотнаў кампазітараў-класікаў. Кожны з трыццаці ўдзельнікаў амерыканскага хору — высокапрафесіянальны спявак, які пры выкананні твораў любой цяжкасці лёгка чытае ноты з ліста, строга прытрымліваючыся чысціні інтанацыі і ансамблевасці, і які можа, калі патрэбна, спець сольную партыю.**

**Творчыя магчымасці хору і аркестра пад кіраўніцтвам Р. Шоу — бязмежныя і вялікія. У гэтым мінчане пераканаліся, пачуўшы ў іх выкананні адзін з найцяжэйшых бахаўскіх твораў — Месу сі мінор («Высокая меса»). Вядома, што І. С. Баху як арганісту і настаўніку пеўчых царкоўных школ і ўвогуле як музыканту тых часоў даводзілася нямала пісаць культавай музыкі, твораў на рэлігійную тэматыку. Аднак у іх вялікі творца пазбягаў прыёмаў сухой царкоўнай схаластыкі і тупога дагматызму. Ён і ў царкоўных творах заўсёды адштурхоўваўся ад рэальнай рэчаіснасці, надаваў ім зямное гучанне, увасабляючы жыццёва-праўдзівыя вобразы, барацьбу чалавечых пачуццяў, горыч і радасць чалавечага быцця. Яркі прыклад гэтага—упершыню выкананая ў Мінску бахаўская меса. Хор і аркестр, якім дырыжыраваў Р. Шоу, паказаў сябе ў гэтым незвычайна складаным творы ўдумлівым мастаком і віртуозам харавога паліфанічнага спявання. Гэтаму творчаму калектыву аднолькава падуладны і суровая героіка, і пранікнёная лірыка, і вясёлы шчыры гумар. З зайздроснай лёгкасцю выконвае ён глыбока драматычныя эпізоды бахаўскага твора, поўныя вялікай жыццялюбнасці і душэўнага парывання, і тут жа раптам аддаецца светламу лірычнаму, роздуму, спакойна, з элегічным сумам аб нечым успамінае, расказвае.**

**Багатая музычная палітра хору. Размяшчэнне яго ўдзельнікаў на сцэне вельмі своеасаблівае і не зусім звычайнае. Яны спяваюць не групамі па асобных галасах, а ў разбіўку, у змешаным «мазаічным» парадку — басы з сапрана, тэнары з альтамі. Прычым размяшчэнне галасоў пры выкананні кожнага новага твора амаль увесь час мяняецца. Вось гэтым у многім і дасягаецца цікавае і разнастайнае маляўнічае гучанне ў хоры, якое нагадвае хутчэй гучанне аргана. Апрача таго, такая манера расстаноўкі харыстаў сведчыць аб іх высокіх вакальных навыках, аб той сапраўднай адказнасці, якую адчувае на адкрытай эстрадзе кожны са спевакоў, спадзеючыся ў першаю чаргу на свае асабістыя сілы і адначасова памятаючы аб сваіх партнёрах і творчым калектыве ў цэлым.**

**Злітнасць галасоў, інтанацыйная чысціня спявання, тонкае пранікненне ў змест музыкі, — усе гэтыя лепшыя якасці сапраўдных майстроў вакальнага мастацтва адчулі мінчане і на паказе другой праграмы нашых гасцей, куды ўвайшлі творы кампазітараў самых розных часоў, напрамкаў і стыляў. Тут прагучалі і глыбакадумны ўрачыстага характару харальны твор Баха, і трохчасткавая жыццярадасная, па-ранейшаму свежая па сваёй музыцы, кантата Моцарта, тут мы пачулі па-філасофску складаны хор «Мір на зямлі» Шонберга і лаканічныя па форме, вельмі выразныя па мелодыцы тры акапэльныя хоры Равэля. З вялікім поспехам выканалі госці на другім канцэрце і творы нацыянальных кампазітараў Нормана Джойо і Чарльза Айвэ, сцэну з оперы Д. Гершвіна «Поргі і Бес», а таксама некалькі негрыцянскіх народных мелодый (спірычуэлз). Пасля кожнага нумара ў зале выбухалі бурныя апладысменты — слухачы дзякавалі гасцям за іх высокую тэхнічную падрыхтаванасць, за натхнёнае, сапраўды дэмакратычнае мастацтва, зразумелае на ўсіх кантынентах зямлі, на ўсіх мовах і гаворках.**

**Музыка не ведае межаў, яна пранікае сюды, даходзіць да сэрца кожнага чалавека, яна збліжае народы і ўстанаўлівае цесныя кантакты са слухачамі любой краіны, любой дзяржавы, аб чым сведчаць і канцэрты нашых гасцей з далёкай Амерыкі.**

**Г. ЗАГАРОДНІ.**

Бетховенскі вечар — так называў канцэрт, што адбыўся ў мінулую нядзелю ў акруговым Доме афіцэраў. Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР пад кіраўніцтвам Ю. Нікалаеўскага (Масква) выканаў творы вялікага Бетховена — уверцюру «Эгмант», Сёмую сімфонію і Пяты фартэпіянны канцэрт. У якасці саліста з поспехам выступіў малады нямецкі піяніст Гюнтэр Коотц (ГДР).

На здымку: дырыжор Ю. Нікалаеўскі (злева) гутарыць з Г. Коотцам.

Фота Ул. Крука.

## У ЧАРГОВЫХ НУМАРАХ ЧАСОПІСАЎ

### «ПОЛЫМЯ»

Адкрываецца нумар вялікай нізкай вершаў Аркадзя Куляшова. Змяшчаюцца таксама вершы Сяргея Дзяргая, Еўдакіі Лось, Юрася Свіркі і Ігара Шклярэўскага.

Часопіс друкуе працяг рамана Піліпа Пестрака «Серадзібор».

У раздзеле нарысаў змешчаны «Белазёрскі дзённік» Уладзіміра Дадзіёмава.

Да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа друкуецца працяг кнігі Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе».

Пад рубрыкай «Літаратуразнаўства і крытыка» з новым артыкулам пра творчасць Я. Купалы выступае Р. Бярозкін. Паэзію Пімена Панчанкі разглядае В. Гапава.

Бібліяграфічны раздзел часопіса прадстаўлены артыкуламі Д. Фактаровіча і Ул. Карабана, кароткімі рэцэнзіямі на новыя кнігі.

### «МАЛАДОСЦЬ»

У 10 нумары часопіса багата прадстаўлена паэзія: змешчаны падборкі вершаў А. Грачанікава, Р. Барадуліна, М. Маляўкі. Якубу Коласу прысвяцілі вершы Н. Гілевіч і Р. Тармола.

Друкуецца заканчэнне рамана І. Навуменкі «Сасна пры дарозе». З празаічных твораў змешчаны таксама апавяданні А. Асіпенкі і А. Кудраўца.

Пад рубрыкай «Да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа» часопіс публікуе, апрача вершаў, успаміны І. Барашкі, М. Хведаровіча, Э. Агняцвет.

Як і ў ранейшых нумарах, у часопісе ёсць рубрыка «На арбіту камунізма», пад якой змешчаны— артыкул Б. Паўлёнка аб поспехах савецкага народа ў будаўніцтве камунізма, запіскі А. Салаўёва, у якіх расказваецца аб буднях брыгады камуністычнай працы Віцебскага дывановага камбіната і рэпартаж В. Карамазава з Крычаўскага цэментна-шыфернага камбіната.

У раздзеле «Гары, камсамольскі аганёк!» чытач знойдзе артыкул Ул. Нядзведскага «Ад сэрца да сэрца».

У кастрычніцкай кніжцы часопіса рэцэнзуецца зборнік дакументаў і матэрыялаў «За перамогу камуністычнай працы», выдадзены Акадэміяй навук БССР. Пра сённяшні дзень балгарскай літаратуры расказвае ў сваім артыкуле Г. Вылчаў.

Ёсць у нумары і аддзел гумару і сатыры.

### «БЕЛАРУСЬ»

Кастрычніцкі нумар часопіса адкрываецца артыкулам Г. Папова, які прысвечаны гераічным будням народа — будаўніка камунізма.

Публікуюцца працяг аповесці М. Ваданосава «Растрывожаны лес», а таксама ўрывак з аповесці С. Александровіча «Ад роднае зямлі...» і «Нявыдуманыя апавяданні» З. Азгура.

Паэзія ў нумары прадстаўлена вершамі А. Бялевіча, М. Хведаровіча, М. Матэвушава, С. Кацубы. Друкуюцца неапублікаваныя вершы Якуба Коласа.

У раздзеле «Новыя кнігі» часопіс змяшчае рэцэнзіі А. Макарэвіча, А. Есакова, Я. Герцовіча, А. Алехіна.

Розным пытанням гаспадарчага і культурнага жыцця рэспублікі прысвечаны матэрыялы Б. Бур'яна, П. Прыходзькі, Э. Карпачова, П. Пруднікава, Я. Рамановіча, Б. Усцінава і інш.

### «БЯРОЗКА»

Тэматычнай і жанравай разнастайнасцю вызначаецца кастрычніцкі нумар дзіцячага часопіса «Бярозка». Тут і апавяданні, і нарысы, і вершы, і нататкі аб піянерскім жыцці, і кароткія рэцэнзіі на новыя дзіцячыя кнігі.

З мастацкіх твораў у часопісе змяшчаюцца апавяданні П. Ткачова, М. Гілевіча, М. Паслядовіча, А. Асіпенкі, вершы П. Прыходзькі, Ул. Паўлава, А. Вярцінскага, Р. Хацкевіча, П. Пранузы, А. Дзяружынскага і В. Зуёнка. Друкуецца таксама ўрывак з паэмы М. Машары «Мая калгасная сям'я».

З нарысамі на выхаваўчыя тэмы выступаюць Г. Пустаход, П. Беразняк, А. Пятровіч, П. Ігогнін.

Нумар цікава, з добрым мастацкім густам афармлены.

## ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ МОЛАДЗІ

Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача наладзіў выязныя спектаклі для моладзі і школьнікаў раёнаў рэспублікі. Студэнтам сельскагаспадарчага тэхнікума, што знаходзіцца ў вёсцы Наваполлі Мінскага раёна, быў паказан спектакль па п'есе А. Успенскага «Дзяўчына з вяснушкамі». Вучням гарадскога пасёлка Рудзенск тэатр паказаў «Зайку-зазнайку» С. Міхалкова. Моладзь Салігорска ў сваім Доме культуры прагледзела спектакль па п'есе І. Шамякіна «Не верце цішыні». Тэатр наведаў таксама торфапрадпрыемства «Усяж» і раённы цэнтр Смалявічы, пасёлак Ракаў і інш.

## У ІМЯ БУДУЧЫНІ

ЛЯ ПАЛІЦЫ перакладаў

Знаёмыя шчыра здзіўляюцца, што Кшыштаф Ланцут, якога з радасцю прынялі б лепшыя варшаўскія клінікі, практыкуе ў гэтым глухім мястэчку.

Так, сапраўды, «Тэатр Варшаўскі», спакойнае жыццё і навуковая кар'ера недзе бясконца далёка ад яго. Тут жа — бяссонныя начныя паездкі па вёсках у мароз і завіруху, нечаканыя выклікі і нават варожасць. Ён не тутэйшы, ён «не ведае мясцовых людзей і іх нораваў». Але ж, мусіць, не ў гэтым прычына. Ксёндз Бялевіч — таксама «не тутэйшы», аднак ён, — куды больш паважаная асоба, хоць паратунку ад хвароб і смерці шукаюць не ў Бялевіча, а ў яго, Ланцута...

Дарэчы, шукаюць не толькі паратунку ад хвароб. Стары селянін Вярамюк, злёгку пашкодзіўшы нагу, сімулюе інваліднасць: каб сына не забралі ў войска, каб «не загінула зямля» — уласная сядзіба. І калі Ланцут, жадаючы працвярэзіць сімулянта, кажа: «Прыйдзецца ампутаваць нагу. Падобна на гангрэну», Вярамюк раўнадушна кажа:

— Ампутаваць, дык ампутаваць, гэта значыць адрэзаць, га? Ну што ж, няхай будзе па-вашаму. А тады вы мяне ў інваліды запішаце?

Туберкулёзная кухарка кааператыўнай сталовай адмаўляецца лячыцца, ставячы пад небяспеку ўласную дачку і іншых людзей. Дзяўчына, што нарадзіла «байструка» і задушыла яго, патрабуе даведку аб тым, што дзіця памерла сваёй смерцю. Складаныя перыпетыі жыцця, бясконцыя клопаты...

Ланцут пакуль што і сам да канца не разумее, што ж утрымлівае яго тут, у гэтай глухой вёсцы глухога павета. Ва ўсякім разе гэта не проста даніна абавязку, як сцвярджае ксёндз Бялевіч. Гэта нешта большае.

Доктар Ланцут — цэнтральны герой аповесці польскага пісьменніка Аляксандра Мінкоўскага «Ніколі ў жыцці». Падзеі і вобразы ў творы падаюцца праз прызму яго ўспрыняццяў. Пісьменнік карыстаецца такой формай вельмі ўдала.

Зусім натуральна выглядаюць у аповесці тыя вострыя калізіі, якімі яна насычана. Нават такія эпізоды, як трызненне стомленага доктара і яго размовы з шахматнымі фігурамі не парушаюць кампазіцыйнай стройнасці твора, а дапамагаюць раскрыццю падзей і характараў герояў аповесці. Праўда, крыху схематычнымі аказаліся вобразы калегі Ланцута — доктара Длускага і адной з цэнтральных гераінь твора Клары Вечарковай. Але затое ксёндз Бялевіч — вобраз настолькі рэльефны, што яго бачыш і запамінаеш.

Палеміка Ланцута і Бялевіча пададзена ў выглядзе «сяброўскай» размовы за бутэлькай віна. Спакваля ўгаварваючы Ланцута выехаць з вёскі, ксёндз гаворыць аб сабе: «Я вырас у вялікім горадзе і часам сумую па ярка асветленых вуліцах. Але... я асвоіўся з думкай, што гэта для мяне самае падыходзячае месца».

Ксёндз не пакідае вёскі. Але кіруецца ён у гэтым прама працілеглымі матывамі, чым Ланцут. Ён цынічна прызнае, што «змагаецца за ўладу над гэтымі людзьмі». Ён не выкрывае знахара, а з той «шчырасцю» кажа, што сам ён прадае «людзям такі ж самы тавар, толькі лепшага гатунку».

Па езуіцку пахваліўшы Ланцута («Я гатоў пайсці ў заклад, што Юда ў вашай душы заўсёды абуджаў пагарду»), ксёндз у пропаведзі абвінавачвае доктара ў тым, што ён нібыта выгарадзіў дзяўчыну, якая забіла сваё дзіця. А між тым іменна Бялевіч схіляў да гэтага доктара.

Паступова Ланцут разумее, што ўтрымлівае яго тут, у далёкай вёсачцы. Гэта таксама «барацьба за ўладу», за ўладу святла над цемрай, якую нясуць розныя бялевічы, за лепшае жыццё «людзей, да якіх ён прыйшоў, каб дапамагаць ім, вучыць іх, вучыцца ў іх самому... і разам з імі шукаць дарогу да лепшага будучага». Праз ваганні і складаныя перыпетыі ідзе Ланцут да ўсведамлення гэтага, ідзе, каб ніколі ў жыцці не схлусіць, не пайсці на кампраміс з сумленнем.

Пісьменнік пераканаўча паказвае, як перавыхоўваюцца і іншыя персанажы аповесці.

Сакратар павятовага камітэта Зэльман гаворыць Ланцуту: «Тут цяжка. Але як-небудзь справімся, так, доктар?»

І Ланцут, і Зэльман, і ўсе, хто ідзе за імі, перамагаюць. У вёсцы пачынаецца будаўніцтва завода Бялевіча і бялевічаў чакае немінучы канец...

Наш чытач з цікавасцю сустрэне апавяданне аб барацьбе братняга народа за новае жыццё. Гэтая барацьба нялёгкая, але перамога ў ёй вызначана. Яна на баку будаўнікоў новай Польшчы.

**Б. ФІРШТЭЙН.**

А. Мінкоўскі «Ніколі ў жыцці». Аповесць. Пераклад з польскай мовы К. Паўтаржыцкага. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1962.

## Штрых за штрыхам...

Штрых за штрыхам... І вось на вялікім аркушы — партрэт старога.

Студэнтка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Яўгенія Осіпава яшчэ не закончыла партрэт, але працуе яна натхнёна.

Фота Ул. КРУКА.

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.